# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №12 снежань 2015 году

Кааліцыя па-новаму – Стар.5

Хто пойдзе кандыдатамі? – Стар.6

Што з “Народным рэферэндумам”? – Стар.8

## Планы на 2016 год

**Кіраўнікі Руху “За Свабоду” падвялі вынікі 2015 году і распавялі пра планы арганізацыі на 2016-ы. Намесніца старшыні Галіна Скараход – у галіне гендэрнай палітыкі, яшчэ адзін намеснік Алесь Лагвінец – пра адукацыйныя праекты, а першы намеснік Юрась Губарэвіч - пра ўдзел у парламенцкай выбарчай кампаніі.**

### Адзіным спісам



«Асноўнай падзеяй 2015 году стала нават не прэзідэнцкая кампанія, - кажа першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, - а змены ў знешнепалітычным курсе беларускага ўраду і гатоўнасць ЕЗ ісці на больш шчыльнае супрацоўніцтва з Лукашэнкам у сітуацыі толькі частковага выканання раней агучаных патрабаванняў».

Па ягоных словах, былі вызваленыя палітвязні, і рэжым стаў менш жорстка праяўляць сябе ў адносінах да ўдзельнікаў несанкцыянаваных акцый.

«Але амаль нічога не змянілася ў сферы доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, свабоды дзейнняў НДА і палітычных партыяў. Гэтак

працяг на стар. 2-3

## Паўстае «Правы цэнтр»



**Рух «За Свабоду», АГП і БХД прадставілі супольныя патрабаванні да ўладаў. Тры асноўных патрабаванні: змены ў выбарчым заканадаўстве, рэгістрацыя дэмакратычных грамадскіх аб’яднанняў і партыяў, роўныя ўмовы для СМІ.**

«Цягам апошніх трох месяцаў у Беларусі ідуць перамовы паміж паміж прадстаўнікамі правацэнтрысцкіх сілаў – Рухам «За Свабоду», Партыю АГП, Партыю БНФ. Перамовы вядуцца вакол супрацы на бліжэйшую перспектыву на парламенцкіх выбарах, а таксама па больш грунтоўных пытаннях – захавання беларускай незалежнасці, супрацьдзеянню расійскай прапагандзе, узмацнення ўплыву Расіі на Беларусь, міжнароднай павестцы», - адзначыў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

працяг на стар. 4

# Планы на 2016 год
## (працяг ад стар. 1)

можна сказаць і пра тое, як была праведзеная прэзідэнцкая кампанія. Па ацэнках АБСЕ, яна прайшла несвабодна, непразрыста», - адзначыў Губарэвіч.

Тым не менш, кажа ён, «новая сітуацыя стварае для нас дадатковыя магчымасці: відавочна, што курс на нармалізацыю стасункаў з ЕЗ з'яўляецца доўгатэрміновым, «вынікам паслаблення, непрадказальнасці, агрэсіўнасці ранейшага саюзніка – Расіі, улады і грамадства якой перасталі кіравацца рацыянальнымі матывамі».

Як вынік гэтага, дадаў Губарэвіч, чакаецца адмена санкцыяў супраць афіцыйнага Мінску.

«Мінулы год як абазначыў рызыкі і пагрозы, так і падказаў, якія мы можам мець новыя магчымасці. Асноўнай палітычнай падзеяй 2016 году будуць парламенцкія выбары. Рух «За Свабоду» да іх падыходзіць у стане фізічнага і маральнага ўздыму, мы маем каля чатырох дзясяткаў чалавек ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, якія выявілі жаданне стаць кандыдатамі», - патлумачыў першы намеснік старшыні Руху.

Аднак, дадаў ён, гэты спіс будзе скарачацца, найперш таму што мы мусім сканцэнтравацца на кампаніі тых кандыдатаў, якія разлічваюць на здабыццё большасці галасоў выбарцаў сваёй акругі. «Спіс пераглядацца», - кажа Губарэвіч.

«Таксама мы прынялі рашэнне ісці ў рамках адзінага спісу правацэнтрысцкай кааліцыі - гэта дасць нам магчымасць гаварыць адным голасам і даносіць супольнае пасланне ў кожным горадзе нашай краіны», - дадаў адзін з лідараў Руху.

Рух разлічвае на ўзаемную падтрымку і супольную працу прадстаўнікоў правацэнтрысцкіх структураў, заключыў Губарэвіч.

### 7 "гендэрных" планаў



Жанчыны-выбаршчыцы ў 2016 годзе аб'яднаюцца дзеля перамогі, адзначыла намесніца старшыні Руху «За Свабоду» Галіна Скараход.

Калі вярнуцца да прыярытэтаў 2015 году ў кірунку гендэрнай роўнасці, то гэта, безумоўна, дзве грамадска-палітычныя кампаніі.

Па-першае, кажа яна, гэта «Жанчыны супраць фальсіфікацый». Кампанія была ініцыяваная Рухам "За Свабоду" у 2012 годзе ў партнёрстве з АГП і падтрыманая прадстаўніцамі іншых палітычных партый (БХД, БНФ, "Справядлівы свет, БСДП (Г)).

«Мэта гэтай кампаніі - зварот да жанчын-членаў выбарчых камісій, каб нагадаць ім пра крымінальную адказнасць за парушэнні выбарчага заканадаўства і маральную адказнасць перад грамадствам за будучыню краіны», - адзначыла Скараход.

Другая кампанія - «Рэгіянальныя Школы жаночага лідарства» ў партнёрстве з іншымі палітычнымі партыямі і рухамі. Іх мэта - прасоўванне партыйных жанчын у працэсы прыняцця рашэнняў.

Што да міжнародных мерапрыемстваў, у 2015 годзе найбольш эфектыўнымі можна, па яе словах, назваць жаночы Форум АБСЕ-НДІ ў Белградзе, канферэнцыю SILC у Вільні, у якіх удзельнічала кіраўніцтва Руху «За Свабоду».

**У планах на 2016 год:**

1. Працяг актыўнасці ў рамках вышэй названых кампаній;
2. Удзел у працы Нацыянальнай Гендэрнай Платформы;
3. Праца з жанчынамі-выбаршчыцамі падчас парламенцкіх выбараў - кампанія «Падтрымаем жанчын»;
4. Сацыяльныя кампаніі ў партнёрстве з профільнымі НДА;



5. Маніторынг выканання дзяржавай палажэнняў Нацыянальнага гендэрнага плану, лабіяванне прыняцца новага плану;

6. Правядзенне жаночага Форуму Руху «За Свабоду»; Развіццё ініцыятывы «Жанчыны за перамены», ініцыяванай у Гомельскай вобласці ў 2001 годзе і ўзноўленай у 2012-м;

7. Каардынацыя дзейнасці з жаночымі ініцыятывамі іншых партый і структур. (маецца прапанова Руху «За Свабоду» па стварэнні аб'яднанага жаночага Форуму, у тым ліку ў рамках правацэнтрысцкай кааліцыі).

## Адукацыйны ключ

«Адукацыя – ключавы кірунак для Руху», - адзначыў намеснік стяаршыні арганізацыі Алесь Лагвінец.

Мы ўжо маем салідны падмурак, на якім варта будаваць далей нашу адукацыйна-асветніцкую дзейнасць нашай арганізацыі, кажа ён.

«Плануем далей працягваць штогадовую Школу Руху для неабыякавай моладзі. Леташняя Школа была асабліва паспяховай як па тэматыцы, так і па падбору выкладчыкаў ды ўдзельнікаў – у нас было ажно дзве яе сесіі. Магчыма,



мы пойдзем з нашай Школай пра нацыянальны брэнд у рэгіёны Беларусі. Мы таксама рыхтуем адукацыйныя мерапрыемствы для рухаўскіх кандыдатаў і іхніх памочнікаў», - дадаў намеснік старшыні Руху.

У год аднаўлення дыялогу афіцыйнага Мінску з аб'яднанай Еўропай асабліва актуальнай становіцца наша праграмная скіраванасць на еўрапеізацыю Беларусі, лічыць Лагвінец.

«Мы працягнем у рамках Мінскага еўраклубу курс пра інтэграцыйныя працэсы ды інстытуцыі ЕЗ. У рамках падрыхтоўкі рэгіянальных сходаў Руху мы плануем правядзенне публічных дэбатаў пра стан і перспектывы адносінаў паміж Беларуссю і краінамі ЕЗ», - дадаў ён.

«Калі казаць пра нашу працу з моладдзю, дык наспеў час і ёсць ўжо напрацаваны патэнцыял, каб у Руху паўстала моладзевае крыло. Чакаем ад нашых маладых актывістаў большай ініцыятывы і амбітнасці», - заключыў Алесь Лагвінец.



# Паўстае «Правы цэнтр»

## (працяг ад стар. 1)



Губарэвіч падкрэсліў, што на сёння існуе адзіная каардынацыйная пляцоўка ў апазіцыі - АГП, Руха «За Свабоду» і аргкамітэту па стварэння БХД.

«Пад час кожнай міжнароднай сустрэчы мы гаворым, што беларуская праблема можа быць вырашаная толькі ў Беларусі, - падкрэсліў старшыня АГП Анатоль Лябедзька. - Але для нас пераўтварыць Еўрапейскую народную партыю ў нашага хаўрусніка – вельмі істотна, гэта можа ўзмацняць нас і на міжнароднай арэне і ўнутры Беларусі».

**Заява правацэнтрыстаў:**

«Мы прэзентуем новы канцэпт для беларускай апазіцыі, гэты канцэпт заснаваны на каштоўнасцях. Упершыню аб'ядналіся правацэнтрысцкія кансерватыўныя арганізацыі. Мы лічым гэта зробіць трывалымі любыя іншыя аб'яднанні і супольныя дзеянні», - пакрэсліў сустаршыня аргкамітэту па заснаванню БХД Віталь Рымашэўскі.

«Для дасягнення рэальных дэмакратычных зменаў у Беларусі і рэалізацыі права беларусаў на свабодныя і справядлівыя выбары, неабходна выканаць наступныя ўмовы:

1. Змяніць выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку нормы і правілы, якія гарантуюць:

1) безумоўнае ўключэнне прадстаўнікоў усіх палітычных партый і зарэгістраваных кандыдатаў, якія ўдзельнічаюць у выбарах, у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў; 2) празрысты падлік галасоў, права назіральнікаў атрымліваць любую інфармацыю, што датычыцца выбараў, бачыць змесціва выбарчых бюлетэняў, фіксаваць працэс падліку галасоў наяўнымі ў іх распараджэнні сродкамі, а таксама атрымаць афіцыйную копію пратакола;

3) датэрміновае галасаванне і галасаванне дома можа захавацца толькі пры пісьмовым пацверджанні немагчымасці прагаласаваць у дзень выбараў на ўчастку.

2. зарэгістраваць усе дэмакратычныя грамадскія аб'яднанні і палітычныя партыі, якім па надуманых прычынах адмаўлялася ў рэгістрацыі, такія як БХД, «Вясна» і іншыя. Унесці ў заканадаўства неабходныя і прызнаныя міжнароднымі арганізацыямі змены, якія спрашчаюць працэдуру рэгістрацыі структур грамадзянскай супольнасці, адмяніць артыкулы 193-1 і 369-1 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь і спыніць пераслед палітычных апанентаў, у тым ліку па месцы вучобы і працы, гарантаваць бяспечнае вяртанне палітычных эмігрантаў, рэабілітаваць грамадзян, асуджаных па палітычных матывах, і адмяніць абмежаванні іх правоў;

3. стварыць роўныя ўмовы дзейнасці дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, спрасціць сістэму іх рэгістрацыі, адмяніць незаконныя абмежаванні на выданне і распаўсюджванне незалежных СМІ;

Мы патрабуем ад беларускіх уладаў неадкладнага выканання вышэйпералічаных патрабаванняў.

Адсутнасць магчымасці грамадзян абіраць уладу ўмацоўвае карумпаваную сістэму ўлады і робіць немагчымым пасяховае правядзенне эканамічных і сацыяльных рэформаў.

З гэтай прычыны мы заклікаем дэмакратычныя сілы Беларусі, а таксама ўсіх грамадзян краіны да правядзення супольных грамадскіх кампаній, накіраваных на падтрымку вышэйпералічаных патрабаванняў.

Мы таксама звяртаемся да ўсіх міжнародных партнёраў з прапановай наўпрост звязаць пытанне аб поўным зняцці візавых і фінансавых абмежаванняў у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў са змяненнем Выбарчага Кодэкса і правядзеннем сумленных, свабодных парламенцкіх выбараў у 2016 годзе».

# Кааліцыя па-новаму




**Ці можа стаць трывалай і сапраўды каштоўнаснай правацэнтрысцкая кааліцыя? Чаму ў яе не ўвайшоў БНФ, ці можа да яе далучыцца кампанія «Гавары праўду»? На гэтыя пытаньні ў інтэрвью радыё «Свабода» адказаў першы намесьнік старшыні руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч.**

- Сапраўды, існуе пэўная іронія адносна заяваў апазыцыі, асабліва калі мова ідзе пра стварэньне новай кааліцыі. Таму мы прынялі прынцыповае рашэньне: спачатку — дамовы, пасьля — канкрэтныя справы, і толькі пасьля гэтага мы пераходзім да агучваньня нейкіх аб'яднаньняў, калі яны атрымаюцца.

Я спадзяюся, што мы і нашы калегі навучыліся рабіць высновы з гісторыі. На сёньня ёсьць добры грунт для кааліцыі — адзінства ў поглядах, правацэнтрысцкі характар усіх нашых партнэраў. Таксама ёсьць пэўны момант, які падштрурхоўвае да больш адказнага стаўленьня да аб'яднаньня — гэта міжнародная сытуацыя, размарозка адносінаў ЭЗ з Беларусьсю.

Мы можам прыйсьці да таго, што рэжым Лукашэнкі застанецца адзіным рэальным удзельнікаў перамоваў з Эўразьвязам. Апазыцыя праз разьяднаньне дэманструе слабасьць, выключае сама сябе як суб'екта перамоваў. Але мы разумеем сваю адказнасьць, неабходнасьць уплываць на тое, што адбываецца паміж Эўропай і Менскам.

У самой Эўропе неадназначныя падыходы, гучаць галасы, што нэўтральнай пазыцыі Лукашэнкі і вызваленьня палітвязьняў ужо дастаткова для прызнаньня яго партнэрам — без патрабаваньня істотных зьменаў.

Аб'яднаўшыся, мы ствараем магчымасьць для незалежнага грамадзтва быць пачутым. У перамовах з Лукашэнкам трэба выстаўляць патрабаваньні рэальных зьменаў у Беларусі.

**-Чаму відавочна правацэнтрысцкая партыя — БНФ — не ўвайшла ў кааліцыю, і наколькі мне вядома, пакуль не зьбіраецца гэта рабіць?**

- БНФ застаецца падпісантам базавага пагадненьня. Абсалютная большасьць пытаньняў і мэтаў, якія там адлюстраваныя, адпавядаюць праграме БНФ. Таму гэта добры грунт для нашай далейшай супольнай працы па накірунках, не зьвязаных з парлямэнцкай кампаніяй наступнага году.

Адзінае разыходжаньне, якое мы маем на сёньня — гэта фармаваньне агульнага сьпісу на парлямэнцкіх выбарах. Апошні Сойм БНФ пакуль выказаў жаданьне заняцца падрыхтоўкай пэрсанальнага сьпісу. Але БНФ пакінутая магчымасьць для супольнай працы па стварэньні агульнага сьпісу.

**- Палітоляг Юры Чавусаў у сваіх камэнтарах выказвае такую думку, што цяперашняе аб'яднаньне правацэнтрысцкіх сілаў мае галоўную мэту — дэзавуяваць Тацяну Караткевіч як галоўнага прадстаўніка дэмакратычных сілаў Беларусі.**

- Шчыра кажучы, гэта вельмі штучная прывязка. У сваіх перамовах мы ня ўзгадвалі чыньнік Караткевіч, мы ня лічым, што тут адбываецца нейкае суперніцтва, што яе наяўнасьць стварае нам нейкія праблемы для працы ў Беларусі ці на эўрапейскім накірунку.

На дадзеным этапе казаць пра магчымасьць далучэньня ГП да правацэнтрыскай кааліцыі не выпадае

На жаль, з прэзыдэнцкай кампаніі дэмакратычныя сілы выйшлі разьяднанымі. Да моманту стварэньня нашага блёку не было ніякіх аб'яднаўчых працэсаў паміж тымі структурамі, якія маюць хоць нейкую вагу ў Беларусі.



# Хто пойдзе кандыдатамі?

**Папярэдні спіс кандыдатаў, падтрымку якім акажа Рух «За Свабоду» на парламенцкіх выбарах, зацвердзіла на апошнім у гэтым годзе паседжанні Рада арганізацыі. Акрамя таго, кіруючы орган Руху ўхваліў работу ў межах дамовы пра супрацу правацэнтрысцкіх сіл.**

Спіс патэнцыйных кандыдатаў прадставіў Радзе першы намеснік старшыні Руху Юрась Губарэвіч.

Па ягоных словах, жаданне атрымаць заходнія крэдыты для ўратавання эканомікі прымусіць беларускія улады пераглядзець падыходы да арганізацыі выбарчых кампаній. «Наўрадці, можна казаць, што выбары будуць цалкам сумленнымі і дэмакратычнымі, але магчымасцяў для працы з выбарцамі і па прасоўванні супольнага паслання мусіць стаць болей», — падкрэсліў Губарэвіч.



Агулам ў папярэдні спіс увайшлі кандыдаты з шэрагу рэгіёнаў Беларусі. Сярод іх кіраўніцтва арганізацыі — намеснікі старшыні Юрась Губарэвіч і Алесь Лагвінец — і сябры Рады — напрыклад, Хрыстафор Жаляпаў з Віцебску, Дзяніс Турчаняк з Брэста, Андрэй Юркоў з Магілёўскай вобласці, Галіна Краўчанка з Гомеля, Юры Меляшкевіч з Мінску. Актывісты з Руху з Мінску, Слуцка, Барысава, Баранавічаў, Ганцавічаў, Маларыты, Віцебска і Віцебскай вобласці і г.д.




Рух «За Свабоду» гатовы дапамагчы кандыдатам адукацыяй, інфармацыйнай падтрымкай, а таксама падрыхтоўкай праграмных пасланняў, у тым ліку з дапамогай напрацовак «Народнай праграмы».

Губарэвіч падкрэсліў, што спіс яшчэ будзе карэктавацца.

Рада Руху «За Свабоду» большасцю галасоў падтрымала працу правацэнтрыстаў па падрыхтоўцы агульнага спісу на парламенцкіх выбарах і распрацоўцы агульнага паслання.

У завяршэнні паседжання Рада прыняла 15 новых сябраў арганізацыі.

# Назіральнікаў паболее

Шэсць структур, у тым ліку Рух «За Свабоду», падпісалі пагадненне аб удзеле ў супольнай кампаніі назірання падчас парламенцкіх выбараў 2016 году.

Сярод падпісантаў, акрамя Руху, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя», Партыя БНФ, Беларуская Сацыял-Дэмакратычныя Партыя (Грамада), якія ўжо ўдзельнічалі разам у кампаніі назірання «Права выбару», а таксама Аб'яднаная Грамадзянскай Партыя і Прафсаюз Радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП).

Адзначаецца, што кампанія назірання „Права выбару“ ўжо паказала сваю эфектыўнасць, і сёння ў яе ужо ў 2-3 разы больш назіральнікаў, чым было падчас мінулай кампаніі.



# Настрой на еўрашлях



**У офісе Руху «За Свабоду» прайшла сустрэча з дэлегацыяй Еўрапейскага Форуму за дэмакратыю і салідарнасць на чале з генсакратаром Ар'енам Берквенсам.**

«Вельмі важна што ў Беларусі няма крывавых падзеяў, але ёсць увага да беларусаў», — заявіў на сустрэчы старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Ён адзначыў, што «санкцыі — гэта маральная пазіцыя, але кепскі інструмент». «Бо ізаляцыя ўлады, што б мы не казалі, ўсё роўна ізалюе і насельніцтва. Мы заўсёды былі за дыялог але крытычны і абумоўлены», — патлумачыў старшыня Руху.

Сярод плюсаў дыялогу Беларусі і ЕС, ён адзначыў тое, што ў яго час «меней рэпрэсіяў», «меней антызаходніх настрояў, бо прапаганда суцішае працу». «Перад майданам праеўрапейскія настроі дасягалі да 50%», — кажа Аляксандр Мілінкевіч, дадаўшы, што гэта і дэмакраты працавалі, а людзі карысталіся інтэрнэтам, ездзілі, мянялі сваё меркаванне.

«Пасля анексіі Крыма праеўрапейскія настрой рэзка ўпалі. Грамадства зразумела, што калі б мы пайшлі ў Еўропу, з намі магло быць тое ж. Еўропа не змагла абараніць Украіну ад расійскай агрэсіі. Але і прарасійскія настроі таксама ўпалі амаль у два разы», — патлумачыў старшыня Руху «За Свабоду».

Па ягоных словах, зараз дамінуюць «настроі пабудаваць тут беларускай Швейцарыю».

«Не санкцыі вызваляюць палітвязняў. Рэжым два разы вызваляў — кожны раз на пачатку чарговага дыялогу. Значыць, умова спрацавала: вызваліце палітвязняў, і мы пачнём дыялог», — падкрэсліў Мілінкевіч, дадаўшы, што пры гэтым санкцыі трэба адмяняць толькі пасля выканання канкрэтных умоваў, напрыклад, адмовы ад смяротнага пакаранню.

«Для нас важна патлумачыць людзям, што такое Еўропа, чаму яна аб'яданалася», — кажа Аляксандр Мілінкевіч.

Я ўпэўнены, дадаў ён, што «Беларусь павінна абраць еўрапейскі шлях».

«Зараз, канечне, Еўропа — не гатовая, і мы не гатовыя. Калі я гавару, еўрапейская дарога — гэта значыць, што трэба рухацца да еўрапейскіх стандартаў і потым стаць сябрам. Але гэта не пытанне заўтрашняга дня», — падкрэсліў Мілінкевіч.

Па ягоных словах, зараз задача, каб «у грамадстве захаваўся „смак Еўропы", каб людзі хацелі жыць па-еўрапейску».

Сярод сённяшніх праблемаў Беларусі старшыня Руху «За Свабоду» назваў тое, як праходзяць выбары, страх у грамадстве.

«Выбары могуць пайсці па двух сцэнарах, — лічыць старшыня Руху „За Свабоду". — Як звычайна, і калі ў парламент прапусцяць кіраваную апазіцыю».

Нашая пазіцыя, дадаў ён, каб там «была апазіцыя, нават калі парламент не будзе цалкам дэмакратычным», бо «гэта важна для дыялога».

«Вельмі важна, як гэтыя людзі трапяць у парламент. Калі гэтых людзей абярэ сама ўлада і пасадзіць у парламент, гэта будзе нават горш. Бо гэта кансервуе аўтарытарны рэжым», — падкрэсліў Мілінкеві, адзначыўшы, што такая сітуацыя склалася ў Расіі.

«Мы лічым, што вельмі важна, каб першыя дэмакраты, якія трапяць у парламент, былі сапраўды абраныя. Толькі гэта зменіць сітуацыю», — адзначыў старшыня Руху.

Ён прапанаваў важны прынцып для зменаў на выбарах: «Давайце лічыць галасы разам», назваўшы яго першым крокам.



# Што з «Народным рэферэндумам»?

**Аб спыненні кампаніі «Народны рэферэндум» і далейшай супольнай працы па папулярызацыі яе пытанняў гаворыцца ў сумеснай заяве Руху «За Свабоду», Партыі БНФ і БСДП (Грамада):**

«Кампанія «Народны рэферэндум» была ініцыяваная Рухам «За Свабоду», Партыяй БНФ, грамадзянскай кампаніяй «Гавары праўду» у траўні 2013 году. Пазней, у 2013 годзе, да ініцыятывы далучылася Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), кампанію падтрымлівалі шэраг іншых грамадска-палітычных арганізацыяў Беларусі.

Галоўнай ідэяй кампаніі было сфармуляваць важныя пытанні жыцця і будучыні Беларусі як незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, вынесці іх на ўсенароднае абмеркаванне і дасягнуць агульнанацыянальнага кансенсусу.

Народны Рэферэндум




З 2013 года і да пачатку кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі ў 2015 годзе «Народны рэферэндум» дазволіў пашырыць, асабліва ў міжвыбарны час, палітычную камунікацыю ў краіне, мабілізаваць дэмакратычных актывістаў і атрымаць падтрымку значнай колькасці грамадзянаў Беларусі. У межах ініцыятывы арганізатары наведалі дзясяткі гарадоў, правялі грамадскія слуханні і сустрэчы з чыноўнікамі і дэпутатамі, і, самае галоўнае, былі сабраныя подпісы беларусаў у падтрымку правядзення рэферэндуму як законнага спосабу мірных пераменаў у краіне. З гэтых подпісаў 50 тысяч былі пададзены ў Палату прадстаўнікоў.

Мы з вялікім жалем канстатуем, што супольна напрацаваны патэнцыял быў неналежным чынам скарыстаны адным з партнёраў дзеля дасягнення ўласных тактычных задачаў, далёкіх ад першапачатковых мэтаў. У выніку быў падарваны як давер грамадства да кампаніі «Народны рэфэрэндум», так і давер паміж арганізацыямі-удзельнікамі НР. Праз гэта пад час прэзідэнцкай кампаніі каардынацыя паміж ініцыятарамі НР была спыненая. Дэ-факта, «Народны рэферэндум» быў разбураны як агульнанацыянальная надпартыйная кампанія, што базавалася на даверы, роўнасці і каардынацыі партнёраў і задумвалася як значна шырэйшая за выбарчыя кампаніі ды праграмы асобных кандыдатаў.

У гэтай сітуацыі мы канстатуем, што кампанія «Народны рэферэндум» страціла патэнцыял і не можа існаваць у ранейшым фармаце. Мы заяўляем аб спыненні супольнай ініцыятывы «Народны рэферэндум» і далейшай супольнай працы па папулярызацыі яе пытанняў.

У той жа час, мы перакананыя, што ідэі «Народнага рэферэндуму» застаюцца актуальнымі для Беларусі і будзем іх адстойваць і надалей, інтэгруючы іх у свае грамадска-палітычныя праграмы рэфармавання Беларусі».

Заяву падпісалі Аляксей Янукевіч, старшыня Партыі БНФ, Юрась Губарэвіч, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду», і Ірына Вештадт, старшыня БСДП (Грамада).

“Форма супрацы, на жаль, сябе вычарпала. Але ідэі, якія мы агучылі два гады таму, пытанні, якія мы ўзнялі, не губляюць сваёй актуальнасці. Наперадзе — парламенцкая кампанія 2016 году: натуральна, трэба прапанаваць альтэрнатыўныя праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі выбарцам, якія падтрымаюць незалежных апазіцыйных кандыдатаў. У гэтыя праграмы мы будзем уключаць напрацоўкі «Народнага рэферэндуму», перадусім, для нас важныя чатыры пытанні: абмежаванне прэзідэнцкіх паўнамоцтваў двума тэрмінамі, рэальнае самакіраванне, еўрапейская інтэграцыя — адно з ключавых пытанняў для Руху «За Свабоду», а таксама адсутнасць на тэрыторыі Беларусі расійскіх вайсковых баз», - заявіў Губарэвіч пра пазіцыю Руху.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 30.12.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@рух.by